№ 200 (782)

Пятніца, 29 кастрычніка 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 25000 руб., па падпісцы — 18000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

Осветительное оборудование, лампы, кабель. 8-(017)-213-70-21, 8-(017)-213-70-13. Кальченко & К°

Пейджинговую связь редакции обеспечивает МОБИЛКОМ пейджинг-система (017) 222-46-51 (017) 222-46-52

## Как мы обсуждали проект договора с Россией

Собрали нас как-то в красном уголке, и представительница информационной группы, недавно созданной на ПО "Гомсельмаш", объявила, что всем работникам завода необходимо до 20 октября рассмотреть проект договора с Россией, который напечатан в "Советской Белоруссии", а после собраний в своих цехах и отделах сдать протоколы с замечаниями в информационную группу.

В нашем отделе, как выяснилось, такой газеты никто не выписывает, пришлось обращаться к знакомым, и кое-как удалось ее найти. Сняли копии и роздали для прочтения.

Через неделю в нашем отделе состоялось собрание, присутствовали — 21 человек. И тут выяснилось интересная деталь: оказывается, обсуждать было нечего. 14 человек заявили, что вообще против договора, 3 — заявили, что пока в России нет стабильности, заключать какие-либо договоры с этим государством нельзя. 3 человека воздержались, и только один был "за". Его спросили: "Почему?".

"Нужно соединяться, а то нас они к себе потом могут не взять" — заявил он.

Составили протокол с результатами голосования и выдали в информационную группу.

Но когда слушаешь белорусское радио, можно подумать, что все только "за".

С уважением
**И.Н.ДУЖИЙ, инженер.**

## Нечаканым для ўлад канфузам завершылася абмеркаванне праекта дагавора аб стварэнні саюзнай дзяржавы ў адной з сярэдніх школ Барысава

Вельмі нечакана для прадстаўнікоў улад завершылася абмеркаванне праекта дагавора аб стварэнні саюзнай беларуска-расійскай дзяржавы ў працоўным калектыве сярэдняй школы №10 горада Барысава.

Як паведаміў БелаПАН старшыня мясцовай арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) пазаштатны карэспандэнт газеты "Барысаўскія навіны" Аляксандр Абрамовіч, 22 кастрычніка адміністрацыя школы сабрала для абмеркавання праекта саюзнага дагавора каля 50 чалавек. Ініцыятарам сходу выступіў гарадскі аддзел адукацыі.

Падчас галасавання, якое прайшло пасля абмеркавання дакумента, "за" праект дагавора выказаліся толькі два чалавекі. Не чакаючы такога выніку, адміністрацыя вырашыла правесці паўторнае галасаванне. Аднак яно не ўнесла істотных карэктываў у вынікі: "за" праект зноў прагаласавалі два чалавекі; каля трэці прысутных выказаліся "супраць"; астатнія ўстрымаліся выказваць сваё меркаванне.

Паводле слоў А.Абрамовіча, "у сапраўднай мітусні, якой суправаджалася заканчэнне мерапрыемства, застаўся невядомым лёс пратакола сходу".

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

## Падумайце аб сваіх дзецях

Дарагая рэдакцыя! Трывога і боль за лёс маіх сыноў прымусіў мяне ўзяцца за пяро. У афіцыйных СМІ Беларусі праводзіцца шальнаванне ўдзельнікаў шэсця 17 кастрычніка. Гэта становіцца зразумелым, калі параўнаць адлюстраванне падзей на скрыжаванні вуліц Першамайскай і Пуліхава Мінска на ОРТ і БТ. На "нашым" тэлебачанні яно непрыхавана тэндэнцыйнае, абляе ўлады і чарніць удзельнікаў "Маршу".

Я цалкам падтрымліваю пратэст многіх суайчыннікаў супраць аб'яднання Беларусі з Расіяй, а дакладней, дык Беларусі Расіяй. Адным словам, я думаю і сэрцам падтрымліваю пратэст удзельнікаў шэсця. Аб'яднанне не прынясе карысці народу Беларусі — за выключэннем хіба маленькай групы прадстаўнікоў каланіяльнай адміністрацыі. А для нашай моладзі гэта можа мець трагічныя вынікі — удзел у расійскіх войнах, напрыклад, у Чэчні. Абараняючы суверэнітэт Беларусі, нашы маладыя хлопцыя бароняць сваё святое, дараванае Богам, права жыць. У праграме "Рэзананс" Зімоўскі іх назваў "отморозками". Зразумела, што самому галоўнаму "рэзанатару" не прыйдзецца ваяваць у Чэчні. Туды Лукашэнка сваіх сыноў таксама не пашле. А загоняць нашых родных дзетак, кінуць у самае пекла. Страх за магчымы ўдзел у расійскіх крывавых канфліктах і вывеў частку моладзі на вуліцы Мінска 17 кастрычніка.

За ўвесь час у саюз з Расіяй, акрамя Лукашэнкі, так ніхто і не запісаўся. Іншыя краіны і кіраўнікі — разумнейшыя за нас. Свабода і незалежнасць нашай роднай Беларусі — гэта ўпэўненасць у будучыні маіх сыноў. Падумайце аб сваіх, беларускія маці!

Жыве Беларусь!

**Кацярына ПАЛЮХОВІЧ, маці двух сыноў.**

Мінск.

**Прапанова**

## Калі кожны возьме ў рукі паперу і напіша...

Зараз ідзе абмеркаванне так званага праекта дамовы аб стварэнні саюзнай дзяржавы. Ён быў надрукаваны ў "Советской Белоруссии" за 8 кастрычніка разам з запрашэннем суграмадзян к зацікаўленаму і шчыраму абмеркаванню.

Зараз у Маскве і Мінску засядаюць апараты выканаўчых камітэтаў Саюза Расіі і Беларусі, якім даручана здзяйсняць сістэматычны збор і абагульненне меркаванняў грамадзян.

Лічу, што ў такі момант, калі ідзе размова аб існаванні нашай краіны, нельга бяздзейнічаць. Калі кожны возьме ў рукі паперу і напіша ліст на адрас "апаратаў" у Мінску і Маскве пра ўсё, што ён думае аб гэтай "саюзнай дзяржаве".

*Адрас у Расіі: 103132, Москва, Старая пл. 8/5. Исполком Союза Беларуси и России.*

*Адрас у Беларусі: 220004, г.Мінск, пр. Машэрава, 7. Прадстаўніцтва выканкама Саюза Беларусі і Расіі. Факс: 223-35-86.*

**Алесь ГУРЫНОВІЧ.**

## Сямён Шарэцкі сустрэўся са старшынёй Парламенцкай Асамблеі АБСЕ

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Сямён Шарэцкі, які, як вядома, знаходзіцца ў Вільнюсе, раніцай 27 кастрычніка вылецеў у Капенгаген. У сталіцы Даніі ён сустрэўся са старшынёй Парламенцкай Асамблеі АБСЕ спадарыняй Хеле Дайн. Паводле слоў Сямёна Шарэцкага, ён выкарыстаў гэтую сустрэчу для таго, каб данесці да кіраўніцтва ПА АБСЕ праўду аб сітуацыі ў Беларусі.

Затым старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання пабываў у Осла, дзе ўзяў удзел у міжнародным кангрэсе. У межах гэтага мерапрыемства яму прадастаўлена магчымасць выступіць з паўтарагадзінным дакладам на тэму "Асаблівасці дыктатуры і палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь". Са сталіцы Нарвегіі С.Шарэцкі зноў вернецца ў Капенгаген, дзе ў яго запланавана сустрэча з кіраўнікамі Даніі.

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

**Стоп-кадр**



Придорожная торговля на выезде из Добруша по Брянскому шоссе сегодня уже не та, что была, скажем, год назад, когда длинные ряды продавцов выстраивались еще с ночи. Тем не менее если приехал в город за фарфоровым подарком и не нашел чего подходящего в магазинах и даже на самом заводе, поезжай на пятачок у бензоколонки: здесь тебе предложат все, что, как говорится, душа пожелает. Бизнес, он и есть бизнес.

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**

## Група беларускіх жанчын-палітыкаў праінфармавала расійскую грамадскасць аб сітуацыі ў Беларусі

У Маскву наведала дэлегацыя беларускіх жанчын-палітыкаў, якія бралі ўдзел у "Маршы Свабоды" 17 кастрычніка. У складзе дэлегацыі — дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, актывіст Хартыі'97 Людміла Гразнова, старшыня Беларускага жаночага руху "Адраджэнне Айчыны" Таццяна Ваніна, намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), прэзідэнт Беларускай жаночай лігі Ніна Стужынская. У Маскву іх запрасілі дэпутат Дзярждумы Расіі ад фракцыі "Яблоко" Вольга Беклямішчава і рэдакцыя газеты "Аргументы и факты" — аднаго з найбольш значных па накладзе выданняў у Расіі і СНД.

Мэта візіту беларускіх жанчын-палітыкаў — інфармаванне расійскай грамадскасці аб падзеях у Мінску 17 кастрычніка, а таксама аб стаўленні грамадзян Беларусі да праекта дагавора аб стварэнні саюзнай дзяржавы.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

**Размещая рекламу на страницах "Народной воли", Вы не только укрепляете свой бизнес, но и строите новую Беларусь!**

Рекламу не обязательно доставлять в редакцию, ее можно вместе с гарантийным письмом передать по факсу: (017) 229-29-04.
Телефон для справок: (017) 229-29-06.

## Адмовіўся ад паездкі ў Мінск

Як стала вядома, Украінскі Нацыянальны камітэт маладзёжных арганізацый (УНКМА) адмовіўся ад удзелу ў працы Кангрэса маладзёжных арганізацый дзяржаў—удзельніц СНД, які праходзіць у Мінску.

У штаб-кватэры УНКМА паведамілі, што дадзенае рашэнне прымалася зыходзячы з таго, што палітычная і сацыяльная сітуацыя ў Беларусі "не толькі далёкая ад якіхсьці агульначалавечых ідэалаў справядлівасці, але і не мае нават ценю тэндэнцыі паляпшэння. Палітычная лінія правячага рэжыму характарызуецца элементамі дыктатуры, таталітарызму і поўнага ігнаравання Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека". Яскравым пацвярджэннем гэтага, на думку маладзёжных арганізацый Украіны, стала жорсткае падаўленне ў Мінску "Маршу Свабоды" 17 кастрычніка, шматлікія збіванні і арышты ягоных ўдзельнікаў, што выклікала асуджэнне сусветнай супольнасці і дакладна праілюстравала характар рэжыму.

З гэтай нагоды УНКМА звярнуўся да ўсіх дэмакратычных маладзёжных арганізацый Украіны з заклікам падтрымаць удзельнікаў "Маршу Свабоды" і, у знак пратэсту супраць антыдэмакратычнага правячага рэжыму Беларусі, адмовіцца ад паездкі на Кангрэс маладзёжных арганізацый СНД.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Обращение лидеров женского движения Беларуси к женщинам России, Европы и Соединенных Штатов Америки

Дорогие женщины!

Мы все — матери и рожаем своих детей не для зла и насилия. Наши сыновья и дочери — наша надежда. Мы и они должны когда-либо жить в цивилизованном и благополучном обществе, в мире и достатке.

События, происшедшие в Минске 17 октября во время "Марша Свободы", свидетельствует о том, что белорусские власти целенаправленно нагнетают противостояние в обществе. Они сталкивают нашу молодежь, разжигают ненависть и злобу. С одной стороны — это служащие внутренних войск, с другой — студенты и учащиеся, что шли в колонне демонстрантов, реализуя закрепленное в белорусской Конституции право на свободу митингов и демонстраций. Запрещая мирные демонстрации, Лукашенко провоцирует столкновения между несогласными с его политикой и обязанными защищать ее по должности. Сегодня в своей собственной стране многие лишены возможности высказать свои взгляды и аргументы. Белорусские СМИ монополизированы властью — радио и телевидение полностью, газеты — в подавляющем большинстве. В то же время большинство белорусских семей живут за чертой бедности, а выпускников вузов насильственно распределяют в пострадавшие от Чернобыля районы. Нам не сообщают, куда и по чьей воле в Беларуси пропадают люди, и почему за политические взгляды подвергают уголовным преследованиям.

Нынешняя белорусская власть готова противостоять всему миру, вернуть ядерное оружие. Но согласных терпеть и молчать все меньше и меньше. В Минске на "Марш Свободы" вышло около 30 тысяч человек, манифестации и митинги в поддержку Марша прошли в других городах республики.

Взрыв негодования, который продемонстрировала молодежь, — это ответная реакция на нищету, бесправие и беззаконие в нашей стране. Детей трудно остановить. Они стремятся к Свободе!

К сожалению, во время Марша было спровоцировано столкновение. Мы сожалеем, что избиты и арестованы сотни участников мирной демонстрации. Сожалеем о том, что пострадали военнослужащие внутренних войск, за спинами которых выполняли роль "заградотряда" провокаторы и омоновцы. Именно они не дали возможности лидеру Белорусской социал-демократической партии Николаю Статкевичу развернуть и увести от столкновения с милицией колонну демонстрантов.

Только трусы и негодяи могут бить в спину уходящим людям, издеваться над детьми, попавшими в милицейские участки.

Журналистам и общественности стали известны вопиющие факты насилия над задержанными.

Мы, женщины, сожалеем, что нашим детям пришлось, защищая себя, взять в руки камни. Но негодуем и требуем привлечь к уголовной ответственности провокаторов, которые дали приказ силой разогнать мирную демонстрацию и жестоко расправиться с манифестантами.

Мы обращаемся к вам, женщины России, мы обращаемся к сестрам во всех странах мира за поддержкой и солидарностью. Мы обращаемся с призывом осудить действия белорусских властей и помочь нам защитить наших детей. Кроме физических и психических травм, всем им грозит исключение из вузов, колледжей, лицеев.

В наших силах потребовать от белорусских властей уважения к нашим матерям и детям. Все мы — люди с правами и свободами, объявленными Всемирной декларацией прав человека и закрепленными в Конституциях наших стран. Ни одна идеология не стоит крови, насилия и гражданской войны.

**Свободу белорусским политзаключенным!**

**К ответу — власть, пренебрегающую Конституцией!**

**Прекратить преследования за политические убеждения и стремление жить в цивилизованной демократии!**

**Нина СТУЖИНСКАЯ,** президент "Белорусской женской Лиги", заместитель председателя Белорусской социал-демократической партии

**Татьяна ВАНИНА,** председатель белорусского женского движения "Адраджэнне Айчыны"

**Мария АЛИЕВА,** председатель "Белорусской организации трудящихся женщин"

**Людмила ПЕТИНА,** председатель "Белорусского независимого женского демократического движения"

**Ирина ГРУШЕВАЯ,** президент "Белорусского форума женщин"

**Валентина КОВТУН,** президент "Международного женского фонда Святой Евфросинии Полоцкой"

**Светлана БЕСТУЖЕВА,** председатель "Белорусского женского информационно-координационного центра"

**Зинаида ГАНЦУГ,** заместитель председателя белорусского женского движения "Адраджэнне Айчыны", член Совета "Белорусского женского информационно-координационного центра"

**Юлия ЧИГИРЬ,** член правления белорусского женского движения "Адраджэнне Айчыны"

**Галина ДРЕБЕЗОВА,** член совета "Белорусского женского Информационно-коордиационного центра"

**Светлана ЗАХАРОВА,** вице-президент белорусской гуманитарной организации "Детский диабет"

**Ирина ЖИХАР,** заместитель председателя "Белорусской организации трудящихся женщин".

## Беларусь атрымала адзін з найгоршых рэйтынгаў інвестыцыйнай рызыкі

Беларусь атрымала адну з самых нізкіх адзнак у сёлетнім спісе крэдытных рэйтынгаў больш за 100 краін свету, які быў складзены амерыканскім часопісам "Institutional Investor".

Як тлумачаць у публікацыі эксперты СБ, крэдытны рэйтынг, які можа быць ад 0 да 100, вызначае верагоднасць дэфолту — няздольнасць краіны выплачваць атрыманыя ёй крэдыты. Чым ніжэй лічба, тым вышэй верагоднасць дэфолту. Ніжэй за Беларусь (чый рэйтынг складае 11,9) у спісе толькі Албанія, Ангола, Гаіці, Грузія, Конга, Нікарагуа і Сьера-Леонэ.

"Краіны, якія атрымліваюць дрэнную адзнаку ад агенцтваў, што ацэньваюць інвестыцыйныя рызыкі, звычайна не атрымліваюць прытоку прыватнага капіталу", — адзначаецца ў публікацыі СБ.

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ.**

Пр. Лонгіна.
К. Міхала, Нарцыса, Тодара, Яцка.

**75 гадоў** з дня нараджэння (1924) А. Ф. Мельдзюковай, беларускай актрысы.

**45 гадоў** назад (1954) адкрыты Магілёўскі абласны драматычны тэатр.

**КАСТРЫЧНІК**

**29**

'99 ПЯТНІЦА

| ☉ | ☾ |
|---|---|
| Усход 7.05 | Апошн. квадра 31 кастрычніка |
| Заход 16.42 | Заход 13.44 |
| Даўж. дня 9.37 | Усход 21.45 |

## Літоўскія сацыял-дэмакраты патрабуюць ад беларускіх улад вызвалення М.Статкевіча і ўсіх іншых зняволеных, прызнаных "Міжнароднай амністыяй" вязнямі сумлення

Літоўская сацыял-дэмакратычная партыя (ЛСДП) патрабуе ад беларускіх улад вызвалення лідэра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалая Статкевіча і ўсіх астатніх зняволеных, прызнаных "Міжнароднай амністыяй" вязнямі сумлення. Пра гэта гаворыцца ў рэзалюцыі ЛСДП, прынятай на XXII з'ездзе. На ім у якасці гасцей прысутнічала дэлегацыя БСДП (НГ) на чале з намеснікам старшыні партыі Аляксеем Каралём.

ЛСДП лічыць, што адказнасць за тое, што здарылася падчас мірнай акцыі, і беспарадкі ляжыць на афіцыйных беларускіх уладах. "Забарона ўладамі мірнай дэманстрацыі і дзеянні па яе разгоне справакавалі сутыкненні з міліцыяй і войскамі", — гаворыцца ў дакуменце. Падзеі 17 кастрычніка, лічаць дэпутаты з'езда, "яшчэ раз прадэманстравалі ўсю сур'ёзнасць становішча з правамі чалавека ў Беларусі".

ЛСДП выказвае сваю падтрымку і салідарнасць з беларускай сацыял-дэмакратыяй, а таксама заклікае партыі сацыялістычнага інтэрнацыяналу падтрымаць БСДП (НГ) і выступіць за неадкладнае вызваленне Мікалая Статкевіча і ўсіх палітзняволеных у Беларусі.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

## Чаму адмовілі ў перарэгістрацыі Беларускай незалежнай асацыяцыі прафсаюзаў прамысловасці?

У тым, што Беларускай незалежнай асацыяцыі прафсаюзаў прамысловасці (БНАПП) адмоўлена ў перарэгістрацыі, "задзейнічана не толькі кіраўніцтва рэспублікі, але і зацікаўленыя людзі", якія не хочуць, каб існавала прафсаюзнае аб'яднанне, якое кансалідуе найбольш актыўную частку працоўных. Такое меркаванне 26 кастрычніка падчас сустрэчы з журналістамі выказаў сустаршыня БНАПП Генадзь Фядыніч.

Членамі асацыяцыі з'яўляюцца больш за 340 тысяч чалавек; яна аб'ядноўвае тры найбольш актыўных рэспубліканскіх прафсаюзы — работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, радыёэлектроннай прамысловасці, а таксама малых інавацыйных прадпрыемстваў.

Міністэрства юстыцыі адмовіла БНАПП у перарэгістрацыі на той падставе, што пункт 2.2 яе статута (мэты, задачы і метады дзейнасці асацыяцыі прафсаюзаў прамысловасці) нібыта "супярэчыць Закону "Аб прафесійных саюзах", паколькі ў склад асацыяцыі ўваходзяць прафсаюзы, якія прадстаўляюць і абараняюць правы і законныя інтарэсы працоўных". На думку Мінюста, паколькі ў статутах прафсаюзаў, што ўваходзяць у БНАПП, раней запісана палажэнне аб тым, што яны абараняюць сацыяльна-эканамічныя правы працоўных, няма неабходнасці ўносіць яго ў статут асацыяцыі. Аднак, як адзначае кіраўніцтва БНАПП, калі кіравацца логікай Мінюста, у такім выпадку не павінны быць перарэгістраваны ні Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская, ні Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў.

Г.Фядыніч заявіў, што БНАПП мае намер дамагчыся ад улад адмены гэтага рашэння Мінюста. З гэтай мэтай у Вярхоўны суд пададзены неабходныя дакументы, і кіраўніцтва асацыяцыі спадзяецца на станоўчы зыход гэтай справы. Нарэшце, нягледзячы на тое, якое рашэнне прыме Вярхоўны суд, лідэры БНАПП маюць намер працягваць працу па ўмацаванні асацыяцыі, а ў выпадку чарговай адмовы — стварыць новае прафсаюзнае аб'яднанне работнікаў прамысловасці. Акрамя таго, калі іск БНАПП не будзе задаволены, лідэры асацыяцыі маюць намер разглядзець пытанне аб сваім выхадзе з Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях — дарадчага органа, у склад якога ўваходзяць прадстаўнікі ўрада, аб'яднанняў прафсаюзаў і наймальнікаў.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

**29 октября — День провозглашения Республики Турция**

*Шуле САЙСАЛ:*

## "У Турции очень большие перспективы экономического роста"

*Чрезвычайный и Полномочный Посол Республики Турция г-жа Шуле Сайсал дает интервью "Народной воле"*

**-- Госпожа Посол, год назад, когда отмечалось 75 лет со дня провозглашения Республики Турция, Вы говорили о том, что в начале следующего тысячелетия Турция намеревается войти в число ведущих экономически развитых стран мира. Прошел год. Как близко Республика Турция подошла к этой стратегической цели?**

— Мое заявление основывалось на сравнительном анализе, который был сделан в Турции и основывался на исследовании Организации экономического сотрудничества и развития. Анализировались различные аспекты развития многих стран, и в соответствии с этим Турция рассматривалась как одно из основных действующих лиц на мировой арене в период с 2000 по 2020 годы. И хотя до 2020 года еще много времени, у Турции очень большие перспективы экономического роста. Турция — самая большая страна в Европе и по территории, и по населению. У Турции очень выгодное стратегическое положение с географической точки зрения. Она находится в эпицентре Евразии, на перекрестке всех торговых дорог — наземного транспорта, морских путей. Через Турцию также проходят важные коридоры транспортировки энергии. Ведется работа над проектом газопровода "Баку—Джейхан" и газопровода "Голубой поток" по транспортировке газа из России.

Разработан ряд проектов, которые включают Турцию в состав трансевропейской транспортной системы. По крайней мере, 4—6 ее коридоров пройдут через Турцию. И благодаря им через нашу страну пройдут пути в Среднюю Азию, на Ближний Восток, Кавказ и в Европу. Разработан проект "Шелковый путь 21 века", который также включает в себя ряд транспортных систем. Это строительство новых морских портов, железнодорожного тоннеля, который пройдет через Босфор, трансконтинентального моста через пролив Дарданеллы, железной дороги от Карса в Тбилиси и трансевропейской автомобильной магистрали.



**— То, что Турция сейчас реализует такие глобальные проекты, свидетельствует ли это о том, что самые важные внутренние экономические проблемы в Вашей стране уже решены?**

— Разумеется, нет. В Турции еще существует ряд внутренних экономических проблем. Но для того чтобы их решать, вовсе необязательно жить в замкнутом пространстве. Мир настольно быстро развивается, что именно через глобальное развитие нужно решать и внутренние экономические проблемы. Турция стремится стать страной, которая составит значительную часть мировой экономики. Турецкая экономика развивается достаточно динамично. В течение последнего десятилетия уровень роста развития страны составил 5,5%.

"Большая семерка" решила расширить количество участников и создать "большую двадцатку". И Турция является одним из участников этой группы по решению стран "большой семерки". С другой стороны, в Турции все еще существуют проблемы. У нас не закончена программа приватизации и окончательно не решена проблема инфляции...

Один из важных факторов развития экономики нашей страны — это вода. Я думаю, что в следующем столетии вода станет играть даже большую роль, чем нефть и газ. В Турции — огромное количество водных резервов, и существует важный проект GAP стоимостью в миллиарды дролларов. Он направлен на использование водных ресурсов Тигра и Евфрата, в результате которого ирригации подлежат 17 миллионов гектаров земли, что составляет территорию Бельгии. Проект также включает в себя строительство 15 дамб и 18 электростанций, в результате чего снабжение страны электроэнергией увеличится вдвое. Кроме того, в результате проекта улучшается социально-экономическое развитие этих регионов и повышается уровень образованности населения. А в социальном плане это во многом связано с ролью женщины. Различные неправительственные организации Турции очень много занимаются женщинами для того, чтобы они получили необходимое образование. Их роль в этом регионе начинает становиться все более значительной.

*(Окончание на 2-й стр.)*

